












АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

19 ліпеня 2000 года
Цана 85 рублёў

№ 29 (2691)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года


ФЕСТЫВАЛІ




СТАРАЖЫТНАМУ ВІЦЕБСКУ І ЯГО ЖЫХАРАМ ВЕЛЬМІ ПАШАНЦАВАЛА. ВОСЬ УЖО ДЗЕВЯЦЬ ГАДОЎ ЗАПАР СЮДЫ З'ЯЗДЖАЮЦЦА ЗОРКІ МАСТАЦТВАЎ З УСІХ СЛАВЯНСКІХ КРАІН (І НЕ ТОЛЬКІ!) І МАЛАДЫЯ ПАЧЫНАЮЧЫЯ АРТЫСТЫ. МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ МАСТАЦТВАЎ У ВІЦЕБСКУ ЗРАБІЎСЯ САПРАЎДЫ УНІКАЛЬНАЙ З'ЯВАЙ, БО НІЧОГА ПАДОБНАГА ДАГЭТУЛЬ НЕ ІСНАВАЛА НА ЎСЁЙ ПРАСТОРЫ БЫЛОГА САВЕЦКАГА САЮЗА.



*У час урачыстага адкрыцця фестывалю.*

"Славянскі базар" не проста фестываль, гэта чараджзейства: амаль на тыдзень горад скідвае абрыдлую будзённасць, апранае свой самы лепшы ўбор і ператвараецца ў царства майстроў, спевакоў, танцораў, паэтаў.

Калісьці нехта вельмі трапна ўгадаў, спыніўшы фестывальны выбар менавіта на Віцебску: горад і яго жыхары выпрамяняюць такую моцную энергетыку дабрыні і гасціннасці, што артысты, майстры, якія хоць раз тут пабывалі, імкнуцца вярнуцца зноў і зноў. Я пыталася ў многіх віцяблян, ці не надакучаюць ім гэтыя святы, і ўсе ганарыліся, што менавіта іх горад — цэнтр славянскай культуры.

На IX фестываль сабраліся прадстаўнікі з 23 краін свету, у тым ліку — з Расіі, Украіны, Польшчы, Славакіі, Латвіі, Ізраіля, Узбекістана, Эстоніі, Югаславіі і іншых. Сёлета на фестываль прыехалі нават сорбы з Германіі.

З году ў год "Славянскі базар у Віцебску" крыху мяняецца. Вось і на IX ёсць адметныя асаблівасці. Напрыклад, Расія на гэты раз вырашыла прадставіць сваю жамчужыну — вядомы на ўвесь свет балет. Віцебск наведала цэлая россып зорак з Вялікага, Марыінскага тэатраў, прадстаўнікі сучаснага "Рускага імперскага балета". Сярод іх сусветна вядомыя Ілзе і Андрыс Ліепа, Мікалай Цыскарыдзе, Галіна Сцепаненка, уладальнік Гран-пры пяці міжнародных конкурсаў Андрэй Баталаў.

Украіна заўсёды славілася пявучасцю, і на фестываль яна накіравала сваіх лепшых спевакоў. Праграма так і называлася — "Залатыя галасы Украіны". Беларусь прадстаўлялі вядомыя эстрадныя зоркі.

Наогул нават немагчыма пералічыць усіх славутасцей, што з'ехаліся ў Віцебск. Праграма фестывалю была настолькі насычаная, што паспець усюды здавалася літаральна немагчыма. Але кожны мог выбраць сабе мерапрыемства па густу, згодна ўласным схільнасцям, бо выступленні, выставы праходзілі адначасова на 23 гарадскіх канцэртных і кінаканцэртных пляцоўках.

Заканчэнне на 2-й стар.




*Выступае калектыў "Паазер'е" з Пастаў.*



*Наталля АНДАРАЛА — госця з Мінска.* БелТА.

БЕЛАРУСКАЯ ЭКАНОМІКА

## ШТО НАПЕРАДЗЕ?

● Таццяна ХРАПІНА.

Цяперашні год, відаць, стаў для беларускай эканомікі годам небяспечных сюрпрызаў. У гэтым пераконвае аналіз сітуацыі, што склалася ў краіне.

У чым жа яе асаблівасць? Папершае, па-ранейшаму высокімі застаюцца тэмпы эканамічнага росту. Самы важны паказчык — УВП — узрос за мінулы перыяд гэтага года на 5 працэнтаў. Дастаткова нагадаць, што ў мінулым годзе ў гэты час назіраўся эканамічны заціщак.

Калі ацэньваць беларускую эканоміку па паказчыках УВП на душу насельніцтва (па парытэту пакупной здольнасці), то мы знаходзімся ў групе такіх краін, як Турцыя, Бразілія, Калумбія. Гэты паказчык (6 563 долары) у Беларусі значна вышэйшы, чым, скажам, у Расіі, на Украіне і нават у Польшчы.

Па-другое, Нацбанк, як вядома, зрабіў больш жорсткай крэдытна-грашовую палітыку, і ў наяўнасці ўжо першыя вынікі. Нарэшце стабілізаваўся курс долара. Інфляцыя яшчэ ў маі ўвайшла ў прагнозны ход.

Аднак пры цалкам добрым эканамічным фасадзе ў прамысловасці нарастаюць трывожныя працэсы. Ужо першага красавіка 2000 года 3 836 прадпрыемстваў (33,9 працэнта ад агульнага ліку) цярпелі страты. У красавіку мінулага года, заўважце, такіх прадпрыемстваў налічвалася 23,9 працэнта. Калі прааналізаваць рэгіянальную дзферэнцыяцыю эканамічнага аўтсайдэрства, то роскід, які сведчыць пра неэфектыўнае кіраванне, вагаецца ад 21,5 працэнта стратных прадпрыемстваў у беларускай сталіцы да 43,5 працэнта — у адной толькі Магілёўскай вобласці. Перамяшчэнне прыбытку ад нармальна працуючых прадпрыемстваў да неэфектыўных, зразумела, дэфармуе эканамічныя адносіны і абяцае сур'ёзныя праблемы ў бліжэйшай будучыні.

Заканчэнне на 2-й стар.

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

Добы дзень, паважаныя Наталля Салук і члены рэдакцыйнай калегіі газеты "Голас Радзімы"!

Да вас звяртаецца з Літвы ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны Пётр Ігнацьевіч Зайцаў. Я хачу шчыра падзякаваць вам за тое, што вы змясцілі ў вашай газеце эпізод пра пачатак нашага наступлення 29 чэрвеня 1944 года. Вялікі вам за гэта дзякуй!

Пра тое, што мой сціплы артыкул успамінаў апублікаваны ў вашай газеце, я даведаўся, калі знаходзіўся на лячэнні ў бальніцы Чырвонага Крыжа горада Вільнюса. Я, канешне ж, быў рады гэтаму паведамленню і бязмерна ўдзячны вам.

А на днях з Мінска прыязджала наша дачка і прывезла некалькі экземпляраў газеты, якую я з вялікім хваляваннем чытаў.

Я ведаю, што ваша газета адзначыла нядаўна саракапяцігадовы юбілей. У сувязі з гэтым дазвольце павіншаваць калектыў з юбілеем і пажадаць вялікіх поспехаў у працы па падтрыманню цеснай сувязі з суайчыннікамі, якія жывуць за межамі Беларусі.

З павагаю

Пётр ЗАЙЦАЎ.

СПОРТ



**Беларускі тэнісіст Уладзімір ВАЛЧКОЎ стаў сенсацыяй Уімблдонскага турніру. Дзякуючы сваім перамогам, ён выйшаў у паўфінал гэтых прэстыжных спаборніцтваў, якія лічацца неафіцыйным чэмпіянатам свету на травяных кортах.**

**НА ЗДЫМКУ: Уладзімір ВАЛЧКОЎ.**

БелТА.

## ФЕСТЫВАЛЬ «СЛАВЯНСКІ БАЗАР У ВІЦЕБСКУ»

Пачатак на 1-й стар.

У фестывальныя дні адбылося шмат мастацкіх выстаў, прайшоў міжнародны пленэр на аднаўленай сядзібе геніяльнага Ілы Рэпіна. І ні адно мерапрыемства не праходзіла ў паўпустой зале, заўсёды знаходзілася зацікаўленая публіка: фестываль прывабіў шмат гасцей і з іншых гарадоў Беларусі. А віцяблянам зараду бадзёрасці хапала і на тое, каб адпрацаваўшы дзень, позна вечарам ісці на канцэрты (якія, здаралася, пачыналіся і ў гадзіну ночы), і каб шчыра, з усяе сілы апладзіраваць артыстам. Было раздолле для моладзі: амаль усю ноч на плошчы праводзіліся масавыя гулянні і дыскатэкі. Як паведамілі на адной з прэс-канферэнцый прадстаўнікі ўлады, усё праходзіла прыстойна, сур'ёзных парушэнняў не зарэгістравана.

Адным з цэнтральных і асабліва хвалюючых момантаў фестывалю стаў конкурс маладых эстрадных выканаўцаў. За дзевяць гадоў "Славянскі базар" даў пуцёўку на вялікую эстраду шматлікім пачаткоўцам. Кампетэнтнае міжнароднае журы і на гэты раз вызначыла лепшых. Пераможцам аднадушна прызнаны македонец Тошэ Праеўскі.

Яшчэ не закончылася гэта казачнае свята, а арганізатары фестывалю ўжо абмяркоўвалі канцэпцыю наступнага, юбілейнага — дзесятага. Наперадзе вялікая карпатлівая праца. Віцебскія ўлады плануюць за год пабудаваць сучасную гасцініцу на 600 месцаў. Ужо вядомы некаторыя новыя праекты: сабраць на галоўнай сцэне — у летнім амфітэатры — усіх лаўрэатаў папярэдніх фестываляў і запрасіць да ўдзелу ваенныя духавыя аркестры.

### ГАВОРАЦЬ ГОСЦІ ФЕСТЫВАЛЮ:

**Андрыс ЛІЕПА**, мастацкі кіраўнік праграмы "Зоркі балета Расіі": "Мы вырашылі зрабіць гэты фестываль фестывалем дружбы, таму сабралі не толькі артыстаў Вялікага і Марыінскага тэатраў, але і сяброў з Пярмі і Мінска. Думаю, нашы сустрэчы будуць доўжыцца і доўжыцца. Для нас вялікае задавальненне выступаць на адкрытай пляцоўцы ў Віцебску. Летась падчас нашага выступлення пайшоў дождж і я засумняваўся: ці ўдасца закончыць канцэрт. Але ні адзін глядач не выйшаў, і для нас гэта быў вялікі камплімент, калі нават стыхія не здольная ўвесці гледача з канцэрта."

**Рыма КАЗАКОВА**, паэтка (Расія), член журы конкурсу маладых выканаўцаў: "Як сказаў мой добры сябра, украінскі паэт Іван Драч, з усіх славян беларусы — самая чыстая, самая цудоўная славянская нацыя. І гэта сапраўды так. Многа выдатных людзей я сустрэла на Беларусі. На вечары паэзіі панавала атмасфера любві і добрасардэчнасці.

Я б хацела, каб на наступным фестывалі гучала беларуская, польская, руская, сербская, балгарская паэзія, таму, што кожны славянін, калі чуе мову братняга народа, пашырае межы роднай мовы, доўжыць яе."

**Ніна УСАТАВА**, артыстка Вялікага драматычнага тэатра імя Таўстаногава (Санкт-Пецярбург): "Мая сустрэча з Беларуссю пачалася з запрашэння беларускага кінарэжысёра Валерыя Рыбарава на здымкі фільма "Сведка", якія, дарэчы, вяліся на Віцебшчыне. І я ўсім гавару, што мая самая любімая студыя — "Беларусьфільм", дзе я знялася ў сямі фільмах. На "Славянскі базар" ехала з задавальненнем."

**Лілі ІВАНОВА**, папулярная балгарская эстрадная спявачка, член журы конкурсу маладых выканаўцаў: "Прыязджаю ў Віцебск ужо ў трэці раз. Вельмі падабаецца атмасфера, што пануе на фестывалі. Ваша публіка цудоўная. Тут я сустрэлася са сваімі добрымі старымі знаёмымі."

**Таццяна КУВАРЫНА.**



Фота БелТА.

*У дзень Беларусі прайшло тэатралізаванае прадстаўленне, прысвечанае У. Караткевічу. Выступае сястра пісьменніка Наталля Сямёнаўна.*

## ВЫСТАВЫ

# У ХУТКІМ ЧАСЕ НА БЕЛАРУСІ, МАГЧЫМА, БУДУЦЬ РАЗВОДЗІЦЬ СТРАУСАЎ



***У чэрвені ў "Мінск-ЭКСПА" прайшла выстава сельскагаспадарчай тэхнікі і племянных жывёл. У прапанаванай экспазіцыі не было, бадай, толькі што страусаў, але, як высветлілася, і яны, магчыма, з'явяцца на Беларусі ўжо ў наступным годзе. Прынамсі, пра гэта мараць у "Птушкапраме". Як звычайна на такіх мерапрыемствах, людзі актыўна абмяркоўвалі ўбачанае, наладжвалі кантакты, дамаўляліся аб закупках.***

Беларускі статак сёлета цяжка дацягваў да зялёнай травы. Кармоў не хапала катастрафічна. Тэлебачанне, газеты паведамлялі, што частку маладняку нават перавозілі з усходніх абласцей краіны ў больш заможныя заходнія; як ніколі жывёлу кармілі змеленымі на муку хваёвымі галінкамі. Аднак вясну сустрэлі без значнага памяншэння пагалоўя.

На гэтым фоне выстава племянных жывёл здавалася амаль экзатычнай: дагледжаныя прыгожыя коні працоўных і спартыўных парод, свінні на любы густ, індыкі па 20 кілаграмаў вагі. Чалавеку, не звязанаму з сельскай гаспадаркай, здавалася, што падобных жывёл і птушак, на якіх так ярка адбілася праца селекцыянераў, біёлагаў і якія з'яўляюцца лепшымі ўзорамі ў сваім відзе, зусім няма на Беларусі. Калі ж я ўбачыла на ўласныя вочы кныра даўжынёй 200 сантыметраў, у якога выраслі 2 дадатковыя спінныя пазванкі, прыгажуню-карову, што дае ў дзень каля 46 літраў малака, стала цікава, наколькі ўсё гэта блізкае да рэальнага жыцця, ці ўплывае элітная жывёла на галіну ў цэлым. Адказ даў начальнік племаддзела Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі **Яўген РАКАВЕЦ:**

— Тое, што наведвальнікі ўбачылі ў экспазіцыі, і ёсць сама рэальнасць. На Беларусі шмат племянных жывёл. На выставу мы прывезлі тых, якія адпавядаюць усім сучасным сусветным стандартам. Сапраўды, гэта надзвычай прыгожыя, дужыя, прадукцыйныя экземпляры. У нас няма праблем з колькасцю племянных жывёл, тэхналогіяй іх размнажэння. Ёсць складанасці з кармамі, што звязана з агульным узроўнем сельскай вытворчасці на Беларусі. Але на выставе прадстаўлены гаспадаркі, дзе праблема кармоў вырашана.

**— Якім чынам?**

— За кошт разумнага падыходу да справы. Гэта ж як у любой хаце. Там, дзе добрыя гаспадары, плён працы відавочны. Каб развядзенне племяннай жывёлы было выніковым, трэба выканаць шэраг умоў. Возьмем тую ж малочную вытворчасць. У селекцыйным статку племяннога завода "Чырвоная зорка" кожная з 300 кароў дае па 30 літраў малака ў дзень. А звычайная — не больш 12. Малако не можа ўзнікнуць з вады, гэта пераўтварэнне кармоў-раслін у прадукт, які складаецца з 12 працэнтаў сухога рэчыва. Калі будзеш добра карміць жывёлу — атрымаеш шмат смачнага і якаснага малака.

**— Мабыць, неабходна адрасна дапамагаць менавіта такім гаспадаркам, як "Чырвоная зорка", дзе ўмеюць працаваць?**

— На жаль, пакуль яны і не вельмі падтрымліваюцца. Нашай эканоміцы не стае прадуманасці. Сёння карова, ад якой надойваюць у дзень 46 літраў малака, не дае прыбыткаў гаспадарцы. Такая склалася структура цэн. Калгас прадае малако нарыхтоўшчыкам па 88 рублёў за літр (каля 10 цэнтаў), а ў магазіне разведзенае малако меншай тлустасці прадаюць па 150 рублёў. Карова прыносіць гаспадарцы 4 048 рублёў, але з'ядае ў дзень 14 кілаграмаў камбікорму, 5 кілаграмаў сена, 2 кілаграмы патакі, 3 кілаграмы шроту і 70 кілаграмаў зялёнай травы. Такім чынам, яе ўтрыманне абыходзіцца ў 5 138 рублёў.

**— Як можна выправіць становішча?**

— Па-першае, трэба разумець, што ва ўсім свеце сельская гаспадарка дацыруецца з бюджэту, і гэта асабліва важна для нашай сельскай гаспадаркі, якая знаходзіцца ў зоне крытычнага земляробства. Па-другое, бюджэтныя грошы трэба напраўляць адрасна, напрыклад, на зніжэнне цаны камбікорму праз пагашэнне пэўнай часткі яго кошту. Калі ён стане больш танным (яго доля ў структуры цэнаўтварэння малака складае каля 40 працэнтаў), вытворчасць павысіць рэнтабельнасць. Адрасная падтрымка створыць умовы, калі ўсе будуць зацікаўлены здаваць збожжа, набываць камбікорм. Карміць жывёлу адным зернем нявыгадна: яно не сбалансавана па пажыўнасці.

У нас ёсць закон "Аб племянной справе", дзейнічае селекцыйная праграма. Сёлета на адпаведную падтрымку было выдзелена 1 819 мільёнаў рублёў. Пры гэтым працуе сістэма, калі можна прадаць звычайную жывёлу і за атрыманыя грошы набыць племянную. Розніцу ў цане кампенсуе бюджэт. Сістэма працуе ў дачыненні як дзяржаўных, так і прыватных вытворцаў, што стымулюе развядзенне племяннай жывёлы.



**— Наколькі развіты прыватны сектар у гэтай галіне?**

— Значная частка дробнай жывёлагадоўлі знаходзіцца менавіта ў руках прыватнікаў. І краіна мае намер развіваць сетку прыватных гаспадарак. Так, у Шчучыне, напрыклад, ёсць фермерская гаспадарка, у якой 100 гектараў зямлі і 2 тысячы трусоў. Падобная гаспадарка маецца ў Лагойскім раёне. На іх, зразумела, распаўсюджваецца сістэма, пра якую мы гаварылі вышэй. Магчыма, у хуткім часе завязём туды для развядзення імпартныя добрыя пароды. Неабходна прапагандаваць нашы дасягненні і стымуляваць талковых людзей.

**Алена СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час выстаўкі.**

**Фота Анатоля БАСАВА.**

## БЕЛАРУСКАЯ ЭКАНОМІКА

# ШТО ЧАКАЕ НАПЕРАДЗЕ?

Пачатак на 1-й стар.

Да таго ж, для абслугоўвання неэканомнай эканомікі ва ўмовах больш жорсткай крэдытна-грашовай палітыкі проста не хапае грошай. Вынік не затрымаўся: апераджаючы ўсе прагнозы, рост вытворчасці абярнуўся затаварваннем, накапленнем прадукцыі на складах. Да пачатку лета больш за палову месячнага аб'ёму прадукцыі лёгкай прамысловасці аказалася незапатрабаванай гандлем. Сума запазычанасцей Міністэрства гандлю і Белкаапсаюза за ўжо атрыманыя тавары вырасла ў параўнанні з пачаткам года амаль у 2,4 разы. Больш складаным стала для беларускай прамысловасці ўтрымліваць расійскі рынак. Справа ў тым, што экспартныя цэны ў Расіі з моманту жнівеньскага крызісу 1998 года ўзраслі на 40 працэнтаў, а расійскія энерганосьбіты, што імпартуе Беларусь, падаражэлі ў некалькі разоў. Зрэшты, дыспарытэт цэн, канешне ж, не самая галоўная прычына, з-за чаго беларускія тавары перастаюць быць канкурэнтаздольнымі. Неабходна пераасначэнне прадпрыемстваў сучасным абсталяваннем і ўкараненне новых тэхналогій сусветнага ўзроўню, што патрабуе актыўнага рэфармавання эканомікі, пазбаўлення ад неэфектыўна працуючых прадпрыемстваў, прыцягнення інвестыцый. Калі ўлічваць, што экспарт складае ў Беларусі больш за 50 працэнтаў УВП, то канкурэнтаздольнасць і якасць тавараў з'яўляюцца галоўнымі кітамі, на якіх можа трымацца эканоміка. Да прыкладу, крэдыт у 1,5 мільёна долараў пад закупкі імпартнай сыравіны дазволіў ЗАТ "Мілавіца" (вырабляе цудоўную жаночую бялізну) павялічыць аб'ём экспартных паставак да 18,5 мільёна долараў. Сем мільёнаў нямецкіх марак крэдыту, выдадзеных ЗАТ "Атлант" на асваенне новай серыі халадзільнікаў, дазволілі павялічыць аб'ём экспарту на 25 працэнтаў. Моцным прадпрыемствам, такім чынам, удаецца ўтрымацца на плыву ў самых складаных умовах. Слабыя давядзецца закрываць або рэфармаваць, што не можа не прывесці да беспрацоўя і падзення даходаў насельніцтва. Дарэчы, даходы ўзраслі з пачатку года на 16 працэнтаў у параўнанні з тым жа перыядам мінулага года. Але гэта зусім не азначае павышэнне ўзроўню жыцця, бо адпаведна індэкс спажывецкіх цэн узрос на 138,6 працэнта.

Што ж нас чакае наперадзе? Гэта залежыць ад таго, які выбар зробіць беларуская кіруючая эліта: захоўваць і далей сацыяльныя заваёвы працоўных (сёння мы, як і раней, своечасова выплачваем дапамогу шматдзетным сем'ям і маці-адзіночкам, пенсіі, стыпендыі) і заплаціць за гэта банкруцтвам эканомікі або пачынаць жорсткую і паслядоўную лібералізацыю, пры якой прыйдзецца адмовіцца і ад вялікіх датацый на камунальныя паслугі, і ад падтрымкі сельскай гаспадаркі, і ад многіх іншых сацыяльных праграм. Аплачваць рахункі асабістых памылак, відаць, усё ж такі прыйдзецца. Пытанне толькі ў тым, як зрабіць мінімальнай тую сацыяльную цану, якую прыйдзецца заплаціць за непазбежную лібералізацыю.

Беларуская эканоміка, арыентаваная на высокія тэмпы росту, сапраўды, яшчэ нядаўна здавалася моцнай на фоне слабасцей расійскай або ўкраінскай эканомік. Але як толькі там адбудзуцца рэструктурызацыя і мадэрнізацыя прамысловасці, Беларусь зробіцца аўтсайдэрам. Змяніць эканамічную філасофію ў краіне — задача не аднаго дня, а час, неабходны для паляпшэння прадпрымальніцкага і інвестыцыйнага клімату, праходзіць. Так што ж нас чакае наперадзе?..



МІЛАСЭРНАСЦЬ

# ЗНАЙДЗІ МЯНЕ, МАМА!

***НА СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ У БЕЛАРУСІ НАЛІЧВАЕЦЦА КАЛЯ ДЗЕСЯЦІ ТЫСЯЧ ДЗЯЦЕЙ-СІРОТ.***



Нацыянальны цэнтр усынаўлення быў створаны ў 1997 годзе па ініцыятыве Міністэрства адукацыі. Мэта Цэнтра выцякае з яго назвы — уладкаванне дзяцей-сірот у сем'і. Дарэчы, апошнім часам колькасць жадаючых усынавіць дзіця значна павялічылася. Асноўная прычына, якая падштурхоўвае сямейныя пары на такі крок, — немагчымасць мець уласных дзяцей. Другая — пачуццё міласэрнасці, жаданне падзяліцца сваім цяплом з кінутымі і маючымі патрэбу ў пяшчоце дзеткамі. Дырэктар Цэнтра Вольга Карабань з асаблівым задавальненнем гаворыць пра тое, што зараз сірот усё больш бяруць і тыя сем'і, якія ўжо маюць уласных дзяцей ці гадуюць прыёмных. Сямейныя пары імкнуцца ў асноўным браць немаўлят (да года). Другая "папулярная" катэгорыя — ад трох да сямі гадоў. З астатнімі больш складана.

Што трэба для таго, каб узяць прыёмнае дзіця? Папершае, мець кватэру, даход на кожнага з членаў сям'і не *менш за пражытачны* мінімум, а таксама валодаць добрым здароўем. Што датычыць узросту прыёмных бацькоў, тут абмежаванняў няма. Але, калі вам шэсцьдзесят або семдзесят, пытанні ўзнікнуць.

У Цэнтры практыкуецца і міжнароднае ўсынаўленне, аднак, паводле слоў Вольгі Адамаўны, яно не з'яўляецца прыярытэтным напрамкам дзейнасці. Калі за паўгода хлопчыка ці дзяўчынку не ўдаецца ўладкаваць у беларускую сям'ю, толькі тады супрацоўнікі маюць права афармляць яго за мяжу.

Больш за палову замежных усынаўленняў прыпадае на Італію. Італьянцы пераважна бяруць старэйшых дзяцей, якія, як правіла, са сваімі заморскімі бацькамі знаёмяцца падчас вакацый за мяжой.

— Вольга Адамаўна, вы, магчыма, неаднойчы чулі: беларускіх сірот, маўляў, вывозяць за мяжу, каб гандляваць іх органамі...

— Ведаеце, я наогул не разумею, якую мэту ставяць тыя, хто тыражуе падобныя плёткі. Што датычыць нашага Цэнтра, магу вас пераканаць: усе дзеці, што зараз жывуць за мяжой, жывыя і здаровенькія. Сем'і, у якіх яны апынуліся, — не выпадковыя. Перад тым, як атрымаць дазвол на ўсынаўленне, замежныя бацькі прыкладна год праходзяць грунтоўныя праверкі. І калі раптам нас штосьці насцярожвае — "зялёнае святло" яны не атрымаюць. Акрамя таго, кожныя паўгода наш Цэнтр мае з-за мяжы справаздачы па кожным дзіцяці. Так што ўсё пад пільным кантролем, а розныя чуткі — беспадстаўныя.

На жаль, былі выпадкі, калі дзяцей вярталі назад. Праз пэўны час некаторым бацькам, відаць, падавалася, што яны памыліліся ў сваім рашэнні. У большасці гэта тычылася ўжо даволі дарослых хлопчыкаў і дзяўчынак. Відавочна, такія сем'і не былі гатовы да надзвычай адказнага жыццёвага кроку.

— "Двойчы кінутыя" дзеці знаходзяцца ў нас пад асабліва клапатлівым наглядам, — кажа Вольга Адамаўна, — іх мы стараемся ўладкаваць у добрыя сем'і ў першую чаргу.

...Калі вы адчуваеце адзіноту і хочаце падзяліцца цяплом свайго сэрца з маленькім чалавечкам, якому зараз так няўтульна ў гэтым свеце без мамы і таты, вас заўсёды чакаюць у Нацыянальным цэнтры ўсынаўлення.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

ЭКАЛОГІЯ

# У НАРАЧЫ — ПРАБЛЕМЫ

Чысціня і празрыстасць возера Нарач зрабілі яго самым папулярным у беларусаў месцам адпачынку яшчэ з савецкіх часоў. За апошнія гады папулярнасць нарачанскіх санаторыяў не толькі не зменшылася, а, наадварот, узрасла. А вось нарачанская вада стала прыносіць турыстам усё больш непрыемнасцей.

Апошнія пяць гадоў спецыялістамі сярод адпачываючых на возеры Нарач быў зафіксаваны рост захворваемасці на скурныя алергадэрматыты, звязаны з заражэннем нарачанскай вады лічынкамі шыстаматоіднага цэркарыёзу, — паведаміў выконваючы абавязкі загадчыка санітарнага аддзела Мядзельскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Мікалай СТРАЛЕЦ. — Гэты паразіт занесены ў Нарач пералётнымі птушкамі. Прамежкавая стадыя яго развіцця адбываецца ў малюсках, а канчатковая — у птушыным кішэчніку. Першыя трывожныя сігналы мы атрымалі яшчэ ў 1993—1994 гадах. Каб высветліць этыялогію паразіта і выпрацаваць меры барацьбы з ім, нам прыйшлося прыцягнуць сілы вядучых беларускіх і расійскіх вучоных.

Паколькі асноўным "гаспадаром" шыстаматоідных цэркарыёзу на Нарачы з'яўляюцца крыжанкі, прыйшлося правесці іх частковы адстрэл і адлужванне. Акрамя таго, мы рэгулярна чысцім дно ад малюскаў, асабліва на мелкаводдзі. У 1995 годзе заражанасць шыстасомамі адабраных для даследавання малюскаў складала 21, а ў 1999 годзе — 11 працэнтаў, крыжанак — 43 і 27 працэнтаў адпаведна. Праўда, сёлета праведзеная намі вясной праца па ачыстцы дна ад малюскаў жаданага выніку не прынесла. У сувязі з існуючай небяспекай заражэння на ўсіх пляжах возера сёння ўстаноўлены шчыты з рэкамендацыямі для адпачываючых выкарыстоўваць у якасці прафілактыкі пасля купання ў возеры абмыванне пад душам, абціранне растворам саліцылавага спірту, тлустыя крэмы і мазі. Камусьці могуць спатрэбіцца і антыгістамінныя лекавыя прэпараты.

Самымі небяспечнымі ў плане заражэння алергадэрматытамі скуры застаюцца мелкаводдзі, у якіх так любяць плёскацца дзеці. Як заўважыў Мікалай Стралец, шыстаматоідным цэркарыёзам заражана сёння не толькі возера Нарач, а ўся група нарачанскіх азёр.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**
("Звязда").

ЭЎРЫКА!



# З РОГА ЎСЯГО МНОГА

**● Сяргей ХАЛАДЗІЛІН.**

У даходную справуператварылі былыя адходы працаўнікі Калінкавіцкага мясакамбіната, стварыўшы на прадпрыемстве ўчастак па вырабу сувеніраў са звычайных рагоў. Праўда, перад гэтым давялося паклапаціцца пра спецыяльную падрыхтоўку мастакоў, набыццё інструментаў і фарбаў. Затое сёння прадукцыя ахвотна раскупляецца не толькі ў раёне і па ўсёй Беларусі, але і за мяжой.

НА ЗДЫМКАХ: майстар па вырабу сувеніраў з рога Святлана ШЭЛЕГ; пано з рога "Сабор Пятра і Паўла".

**БелТА.**



ЗДАРЭННІ

Супрацоўнікамі барысаўскай міліцыі вызвалены заложнік. Злачынцы ўтрымлівалі яго ў падвале дома некалькі дзён. Пачалася гэта гісторыя ў чэрвені, калі ў кватэру мясцовай жыхаркі зайшлі трое няклікаsuccessive ных гасцей. Яны патрабавалі вяртання доўгу, збілі сужыцеля жанчыны і павялі яго з сабой. У працэсе расследавання асобы "гасцей" былі вызначаны. Усе аказаліся мясцовымі жыхарамі, двое з іх раней судзімыя. Узбуджана крымінальная справа, і цяпер злачынцам пагражае тэрмін пазбаўлення волі ад 5 да 10 гадоў.

РЭХА ВАЙНЫ

**У ГЛЫБОКІМ ВЫЯЎЛЕНЫ АСТАНКІ НЯМЕЦКІХ САЛДАТ.** Раскопкі з мэтай перапахавання астанкаў нямецкіх ваеннаслужачых з часоў другой сусветнай вайны завершаны ў Глыбокім Віцебскай вобласці. Пра гэта паведаміў намеснік начальніка Глыбоцкага раённага ваеннага камісарыята Сяргей Сямёнаў.

Паводле слоў С. Сямёнава, аб існаванні пахавання на тэрыторыі гарадскога стадыёна "было вядома ўвесь час". Раскопкі пачаліся сёлета 10 мая па ініцыятыве грамадскай арганізацыі "Нямецкі народны саюз" (ФРГ), якая ўзяла на сябе расходы па правядзенню работ.

Пры дапамозе спецыяльнай пошукавай роты спецбатальёна Міністэрства абароны Беларусі ўдалося адкапаць астанкі 541 нямецкага ваеннаслужачага, пахаванага ў Глыбокім. Як адзначыў С. Сямёнаў, у прадстаўнікоў зацікаўленага боку быў план пахавання і спіс пахаваных ваеннаслужачых, што аблегчыла работу.

Астанкі плануецца перапахаваць на цэнтральных могілках Глыбокага.

ПАКАЛЕННЕ-2000



*Конкурс "Міс-выпускніца" падрыхтавалі выхаванцы гомельскага агенцтва "Віардо". Дзяўчаты выступалі ў сукенках, пашытых уласнымі рукамі да выпускнога балю. Лепей за ўсіх з умовамі конкурсу справілася Аксана БАНДАРЭНКА (на здымку), якая і заваявала званне "Міс-выпускніца".*

ЗАКОН ПІСАНЫ ДЛЯ ЎСІХ

# ЯК ВЫЯЎЛЯЮЦЦА НЯДОБРАСУМЛЕННЫЯ ЧЫНОЎНІКІ?..

Пад старшынствам Генеральнага пракурора Алега Бажэлкі ў пракуратуры краіны адбылася каардынацыйная нарада, на якой былі разгледжаны пытанні паляпшэння ўзаемадзеяння па барацьбе з карупцыяй і хабарніцтвам. У рабоце нарады прынялі ўдзел адказныя асобы цэнтральных апаратаў пракуратуры Беларусі, МУС, КДБ, Вярхоўнага суда, намеснікі пракурораў абласцей і кіраўнікоў абласных УУС, кіраўнікі аддзелаў па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй.

На нарадзе адзначалася, што праваахоўныя органы прымаюць значныя меры па выяўленню і спыненню фактаў хабарніцтва ў структурах улады і управлення, праваахоўных і кантралюючых органах. Пры гэтым галоўная мэта барацьбы з карупцыяй — выкрыццё нядобрасумленных чыноўнікаў.

У 1999 годзе і 1-м квартале бягучага года зарэгістравана каля тысячы фактаў хабарніцтва, з якіх 53 працэнты з'яўляюцца эпізодамі атрымання хабару. За гэты перыяд у суды накіравана 281 крымінальная справа па хабарніцтву. Згодна з матэрыяламі крымінальных спраў, прадметам хабару ў большасці выпадкаў з'яўляліся долары ЗША ў суме ад 6 да 8 тысяч.

У выступленнях прысутных звярталася ўвага на памылковую практыку, калі на ўлік, як за дачу хабару, ставяцца малазначныя эпізоды. У Першамайскім раёне Мінска толькі ў сакавіку бягучага года ўзбуджана 5 крымінальных спраў па хабару ў дачыненні вадзіцеляў аўтатранспарту, якія ў начны час давалі хабар работнікам ДАІ ў памеры, прыкладна, 1,3 долара ЗША.

Судамі ў названы перыяд было разгледжана 235 крымінальных спраў па фактах хабарніцтва. Большасць (211 абвінавачаных) асуджаны да пазбаўлення волі. Аднак вывучэнне судовай практыкі, як адзначана на нарадзе, таксама высветліла рад праблемных пытанняў, сярод якіх — суразмернасць прызначанага пакарання.

Напрыклад, судом Рагачоўскага раёна ўчастковы інспектар міліцыі асуджаны да пяці гадоў пазбаўлення волі за атрыманне хабару ў памеры 500 рублёў. У той жа час інспектар Гомельскай мытні за хабар у суме 2 250 доляраў ЗША асуджаны да трох гадоў пазбаўлення волі. Пракуратурай прыгавор апратэставаны, і пратэсты вышэйстаячай судовай інстанцыяй задаволены.

Відавочна паспела неабходнасць Вярхоўнаму суду Рэспублікі Беларусь сумесна з пракуратурай вывучыць і абагульніць судова-следчую практыку па справах аб хабары.

Прысутныя на нарадзе згадзіліся з неабходнасцю ўзмацнення ўзроўню пракурорскага нагляду і ведамаснага кантролю за забеспячэннем законнасці пры расследаванні крымінальных спраў аб хабары.

**Аляксей ТАРА[illegible]**
**начальнік пр[illegible]**
**Рэ[illegible]**

АСОБА

# ФЕНОМЕН НЕПАРАЎНАЛЬНАЙ СТАФАНІІ

● **Таццяна ХРАПІНА.**

Знакамітая беларуская актрыса, народная артыстка СССР Стафанія Станюта нядаўна адзначыла свой юбілей.

Сёння Стафанія Міхайлаўна — і наш сучаснік, і цудоўная легенда Беларускага нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы.

Тут у далёкім дваццаць першым годзе маладзенькая Стэфачка дэбютавала. Тады на сцэну раз-пораз выскокваў чорнавалосы, вусаценькі цыган, у якога ўлюбляліся юныя глядачкі, і круціўся, як ваўчок, у віхравым карагодзе самага папулярнага спектакля "Цыганка Аза"... Ніхто не здагадваўся, што іграе яго дзяўчына, якая марыла пра балет ці школу народнага танца. Першыя ўрокі акцёрскага майстэрства яна брала ў Фларыяна Ждановіча. І той настаяў, каб яе адправілі ў Маскву вучыцца ў Беларускай драматычнай студыі пры МХАТе ў вядомых тэатральных дзеячаў — Валянціна Смышляева, Барыса Афоніна, Соф'і Гіацынтавай.

— Я і сёння з глыбокай павагай і ўдзячнасцю ўспамінаю сваіх настаўнікаў, — гаворыць Стафанія Міхайлаўна. — Яны ставілі такую высокую планку, што нам з усіх сіл даводзілася цягнуцца да ўзроўню сапраўднага, не баюся такога слова — дасканалага артыстызму... А гэта таямнічы і цудоўны Эльбрус!.. І ты, як альпініст, усё жыццё падымаешся, усё вышэй, падцягваючыся з уступа на ўступ. Бывае, саслізнеш — і зноў цяжкі пад'ём...

Яе ўзыходжанне было ўпэўненым. Спачатку выступала статысткай, у масавых эпізодах. Менавіта тады ёй прапанавалі ролю Паўлінкі ў аднайменнай п'есе Янкі Купалы. Станюта і стала першай уладальніцай крыштальнай "Паўлінкі" — вышэйшага ў рэспубліцы тэатральнага прыза, які да гэтай пары ўручаюць самым яркім талентам. Стварыла такія запамінальныя вобразы, як Цітанія ў шэкспіраўскім "Сне ў летнюю ноч", Глафіра — у "Ваўках і авечках" Аляксандра Астроўскага, Зіначка Зёлкіна — у камедыі Кандрата Крапівы "Хто смяецца апошнім", Марыля — у драме Кузьмы Чорнага "Салавей". Сыграла амаль усіх цікавых гераінь у кінафільмах, пастаўленых па раманах і аповесцях Мікалая Пагодзіна, Валянціна Распуціна, Васіля Быкава таленавітымі рэжысёрамі Ларысай Шапіцька і Элемам Клімавым.

Вучыла, рабіла са Стафаніі вялікую артыстку і само жыццё. Для яе яно было нялёгкім. У 1938 годзе арыштавалі мужа і без суда і следства адправілі ў гулагаўскія лагеры, адкуль ён не вярнуўся. Потым, канешне, рэабілітавалі... Але доўгія гады Стафанія жыла з кляймом "жонкі ворага народа", адна гадавала сына. У той час ёй адводзіліся эпізадычныя ролі: каб толькі з голаду не памерла. Але яна іграла іх так, што засланяла цэнтральныя фігуры. І настаў "зорны час" — кожны выхад на сцэну Купалаўскага тэатра непараўнальнай Стафаніі гледачы сустракалі аглушальнымі апладысментамі, стоячы. Усявышні і на самай справе паклапаціўся — узнагародзіў яе цудоўнымі данымі: прыгожым голасам, пластыкай і грацыяй, стройнай фігурай і выразнай знешнасцю, а галоўнае — тонкай душой.

Семдзесят тры гады ў тэатры пранесліся, як адзін дзень. І прыйшла чарга апошняй ролі. Спектакль "Гаральд і Мод", у якім усяго дзве дзеючыя асобы, ставіўся на сцэне Купалаўскага тэатра ў 1994 годзе спецыяльна для Станюты. Выступаючы ў ролі знатнай, немаладой, але прыгожай дамы, у каханні да якой прызнаецца малады спартыўны чалавек, яна гаворыць:

— Жыццё, мой хлопчык, гэта не толькі спартыўныя перамогі. Трэба пражыць яго так, каб табе ў тваёй раздзявалцы пасля матча было што ўспомніць...

Усім, каму давялося ўбачыць Стафанію Станюту на падмостках тэатра, будзе што ўспомніць. Не гаворачы ўжо пра тых, хто ведае вялікую артыстку асабіста, некалі сустракаўся з ёю ці мае зносіны і цяпер.

Расказваюць, як аднойчы пасля спектакля да яе ў грымёрную з кветкамі прыйшоў мужчына і сказаў: "Вы памятаеце мяне? Я той самы са Смаленска, чатырнаццаты". Ніхто ў грымёрнай нічога не мог зразумець. Але Стафанія яго пазнала. У 1942 годзе Станюта разам з артыстамі Купалаўскага тэатра была ў эвакуацыі ў Томску. У навагодні вечар яны ігралі спектакль у абласным тэатры, які дрэнна ацяпляўся. Іх прымалі на "ўра". І калі заслона апусцілася, Стафанія прапанавала адубелым артыстам сабрацца ў яе невялічкім пакоі, які яна наймала, на сустрэчу Новага года. Яе хлебам не кармі, а дай зрабіць што-небудзь прыемнае людзям. Ёлку раздабыла, буханку хлеба на рынку выменяла на пацеркі, якія зрабіла сама.

Гасцей аказалася трынаццаць. "Ой, якая нешчаслівая для ваеннага часу лічба! — усклікнула Стэфа. — Пайду шукаць чатырнаццатага. А вы чакайце і без мяне не пачынайце!" Схапіла на вуліцы за рукаў здаравеннага дзядзьку, а ён замахаў рукамі: "Мяне ўнукі чакаюць!". Да Новага года застаецца 10 хвілін, а на вуліцы ні душы. І тут убачыла адзінокую фігуру. Эвакуіраваны са Смаленска чалавек заглядваў на светлыя вокны дамоў і не ведаў, да каго пастукацца ў чужым горадзе на начлег. І ўзрадаваўся прапанове жанчыны, не падазраючы, у якую унікальную кампанію трапіць.

— А вось і чатырнаццаты! — весела заявіла яна з парога.

Пра душэўнае багацце, дабрыню артысткі расказваюць легенды. Усе, хто вучыўся разам з ёю ў пачатку 20-х гадоў у Маскве, успамінаюць, як шчодра дзялілася яна з кожным з іх у той галодны час. Прадуктовыя пасылкі ёй дасылалі з Беларусі бацькі — трохі саланіны, муку, крупы, сухія грыбы, варэнне з журавін, сухафрукты. У музеі Усесаюзнага тэатральнага аб'яднання ў Маскве да гэтай пары захоўваецца распіска вялікай рускай артысткі Соф'і Гіацынтавай пасля атрымання чарговай такой пасылкі. Яе таксама не раз выратоўвала ад галоднай смерці Стафанія Станюта.

Жыве зараз народная артыстка СССР у старэнькай аднапакаёвай кватэры ў Мінску. Вялікага багацця за сваё доўгае жыццё не набыла: яна заўсёды імкнулася дапамагаць сябрам, любіла падарожнічаць, прымаць гасцей. Сціплую абстаноўку дамашняга ачага ўпрыгожваюць толькі алейныя эцюды і акварэлі брата Уладзіміра, мастака, ды рэчы, зробленыя ўласнымі рукамі. Таленты артысткі зусім не абмяжоўваюцца сцэнай. Яна сама сабе шыла адзенне. Купалаўцы да гэтай пары ўспамінаюць, як зайздросцілі ёй модніцы, калі ў той час зусім маладзенькая Стэфачка з'яўлялася ў тэатры ў новай сукенцы. Скроіла і сшыла яе з кавалка адбеленага льнянога палатна. Бацька, Міхась Станюта, мастак, размаляваў яе арнаментам, падобным на знакамітыя слуцкія паясы. А якія ўпрыгажэнні — кулоны, завушніцы, пацеркі, кальe — насіла Стафанія Міхайлаўна! На выставах народнай творчасці яны прыцягвалі ўвагу модніц, хаця зроблены былі яе рукамі з абрыкосавых костачак, кветак, пладоў шыпшыны, рабіны, каліны, глогу. А яшчэ Стафанія ўмела прычасацца і так завязаць касынку, шалік, што ўсе фасон здымалі.

У дні святкавання юбілею артысткі ў мінскім мастацкім салоне "Гасцёўня Галубка" адкрылася выстава, на якой можна ўбачыць мастацкія творы, прысвечаныя жыццю і творчасці Стафаніі Станюты, у тым ліку і яе партрэт, напісаны бацькам артысткі. З яго глядзіць на нас зусім яшчэ юная Стафанія — сур'ёзная і рамантычная адначасова. У экспазіцыі выставы прадстаўлены і ўпрыгажэнні, макрамэ, сурвэткі, абрус, іншыя работы, выраблены рукамі артысткі. Гледзячы на іх, паклоннікі яе таленту адкрываюць для сябе новую, невядомую Стафанію Станюту.

Усвае 95 гадоў Стафанія Міхайлаўна захавала цудоўную памяць, нядрэннае здароўе і бадзёрасць духу. У тэатр ужо не ходзіць, але купалаўцы, прадстаўнікі розных культурных фондаў часта наведваюць яе, расказваюць пра тэатральныя навіны, раяцца, прапаноўваюць дапамогу. Але Стафанія Міхайлаўна ад дапамогі ветліва адказваецца:

— Дапамагайце лепей ты..., хто мае большую ў гэтым патрэбу. Я заўсёды прымала жыццё такім, якое яно ёсць, і ніколі не рабіла трагедыі з дробязей.

Яе імя — Стэфаніда ў перакладзе з грэчаскай — "венчаная". Старажытныя грэкі так называлі каранаваных асоб. І яна сапраўды каранаваная любоўю і прызнаннем народа, які ведае цану вялікаму таленту і добраму сэрцу.

МІЖНАРОДНЫ КОНКУРС



Лаўрэатам міжнароднага конкурсу "Настаўнік-2000", які праходзіў у Палтаве, вярнулася дадому настаўніца гомельскай сярэдняй школы № 27 Вольга ЛАПАЦІНА (на здымку). Добра выступіла і ўся гомельская каманда, "самая дасціпная", як было прызнана на конкурсе. Дарэчы, адзіная ад Беларусі.

Гэты прэстыжны конкурс праводзіўся ўжо ў пяты раз і з наступнага года будзе трансфармаваны ў Настаўніцкі Фестываль, на які збяруцца прадстаўнікі Украіны, Расіі і Беларусі.

**БелТА.**

З АСАБІСТАГА АРХІВА Усевалада ІГНАТОЎСКАГА

# Усевалад ІГНАТОЎСКІ І ГОМЕЛЬШЧЫНА

● **Аляксандра ГЕСЬ,** *вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.*

На гэты ліст Усевалад Макаравіч даў адказ:

*Т-шчу Бажкову.*

*Атрымаў Ваш ліст. Не маю часу атказаць Вам на Вашыя запытання. Да й няможна зрабіць гэтага ў некалькіх радках ліста. Пакуль што буду мець Вас, таварышч, на ўвазе як работніка нашай адраджаючайся работніцка-сялянскай бацькаўшчыны. Калі жадаеце працаваць тут у нас, пішыце, я Вас выклічу асобным лістом. Калі жадаеце працаваць у Гомельшчыне, працуйце там. Вы маеце права, калі захочуць бацькі, вучыць дзяцей на матчынай мове і атчыніць беларускую школу. Як гэта зрабіць, мы Вам вытлумачым. Архіў берагіце, як сваё вока. Калі хто будзе перашкаджаць Вам, дайце знаць ці мне, ці нашаму Паўнамоцнаму Прадстаўніцтву ў Маскве (Малая Нікіцкая, 18). Мы з свайго боку, як крыху наладзім працу, прышлем да Вас інструктара. Адначасна раблю распараджэнне прысылаць па Вашаму адрасу беларускую газэту. Апроч таго, Вам будзе дастаўляцца літаратура. Калі атрымаеце ўсё гэта, будзеце ведаць, што робіцца ў нас. Тады будзе ў Вас магчымасць адчыніць Навукова-культурны беларускі гурток і рабіць вялікую працу падгатоўкі Вашага краю да прылучэння да нас.*

*З пашанаю нарком асветы*
*У. Ігнатоўскі.*

У кастрычніку таго ж года нарком асветы атрымаў з Азяран яшчэ адзін ліст — цяпер ад школьнага савета. "*Цікавасць да беларускага нацыянальна-культурнага руху, з якім пазнаёміў нас т-шч Бажкоў, усё пашыраецца*", — чытаем мы ў лісце. Школьны савет просіць аб высылцы розных падручнікаў "*хоць па адной штуцы:*

*1. Граматыкі беларускай мовы.*

*2. Гісторыі Беларусі — Ігнатоўскага.*

*3. Беларускую мову ў гістарычным аспекце.*

*4. Геаграфію Беларусі.*

*5. Карты беларускага племя — нарысов. праф. Карскім.*

*6. Беларускі вапрос — Канчара.*

*7. Збор п'есаў дзеля тэатру.*

*8. Збор беларускіх песняў на нотах дзеля школы — Грыневіча.*

*9. Вучэбнікаў і падручнікаў на беларускай мове дзеля школы 1-й ступ.*

*10. Мастацкай літаратуры — зборы твораў беларускіх песняроў*".

"*Атрымаўшы гэта, мы адчынім у сябе беларускі культурна-асветны гурток і будзем пашыраць вялікую працу падгатоўкі прылучэння нашага краю да вас*", — паведамлялі школьныя працаўнікі сяла Азяраны.

Пра неабходнасць захавання культурнай спадчыны, твораў мастацтва піша загадчык Гомельскага абласнога мастацка-гістарычнага музея Арон Маневіч. "*Настоятельно необходимо спасти . зей от расхищения невежественных людей*", — звяртаецца ён да Усевалада Макаравіча, спадзеючыся на яго дапамогу.

*Наркомпросу Белоруссии*
*тов. Игнатовскому*

*Стыдно и грустно становится при мысли о том, что у нас в Гомеле еще не научились беречь памятники искусства и художественной старины, которые являются наиболее показательными для своего времени и могут служить в своем роде документами для истории быта и творчества.*

*Ценность памятников исчезнувшего быта, к сожалению, сознается у нас пока лишь только лицами, причастными к искусству, т. е. сотрудниками музея.*

*Октябрьская революция вывела искусство из замкнутого круга, дворца, монастыря, особняка, помещичьей усадьбы и сделала его доступным для всех.*

*"Искусство — народу!" — мы говорим, потому что знаем, что произведения искусства созданы руками народного гения.*

*"Искусство для всех!" — мы говорим, потому что знаем, что искусство нужно человеку так же, как хлеб, как воздух, как свет.*

*У нас же в Гомеле смотрят на искусство, как на ненужную роскошь, хранить и поддержать которого считается излишним предрассудком.*

**Працяг.**
**Пачатак у № 28.**



ХРЫСЦІЯНСКАЯ СТАРОНКА «ЖЫЦЦЁ І ВЕРА»

# КАСЦЁЛ У СЛАБОДЦЫ







*Тут няспешна жыццё*
*працякае.*
*Як люстэркі,*
*азёры блішчаць.*
*У якія сам Бог зазірае,*
*У якія анёлы глядзяць.*

Гэтыя паэтычныя радкі напісаны нібыта пра Слабодку — вёску ў Браслаўскім раёне, дзе на высокім пагорку ўзвышаецца касцёл Сэрца Ісуса. Гэта адносна малады храм — яго гісторыя налічвае ўсяго каля ста гадоў. Размешчаны ў цэнтры вёскі касцёл можна бачыць не толькі з кожнага куточка Слабодкі, але амаль што з усёй акругі. Куды б вы ні паехалі па Браслаўскіх азёрах, адусюль убачыце на далёкім гарызонце белыя вежы Слабодкаўскага касцёла. Ён, як пуцяводны маяк, прыцягвае да сябе людзей, усіх, каму патрэбна Божае слова, споведзь, адпачыванне душы. Таму штодзень тут многа людзей рознага ўзросту.

Унутранае аздабленне касцёла — яго насценны роспіс у выглядзе разнастайных кветак і рознакаляровых узораў, як быццам прыйшло з маляўнічых пагоркаў Браслаўшчыны, блакіта яе азёр. Таму і пануе тут еднасць штодзённага жыцця і Высокага духу.

НА ЗДЫМКАХ: у імя Айца, Сына і Святога Духа...; касцёл Сэрца Ісуса ў Слабодцы; гэтую постаць Маці Боскай стварыў і падараваў касцёлу слабодкаўскі разьбяр Пётр ЗЯЛЯЎСКІ; сам-насам з Богам.

**Яўген КАЗЮЛЯ.**
**Фота аўтара.**

ГУТАРКІ АБ ВЕЧНЫМ

# АСНОЎНЫЯ ЭТАПЫ ХРЫСЦІЯНСТВА НА БЕЛАРУСІ

## (Х—ХХ СТАГОДДЗІ)

● Уладзімір КОНАН, *доктар філасофскіх навук.*

Вышэй мы ўжо гаварылі пра ўзнёсла-трагічны лёс першай нашай асветніцы Рагнеды (Анастасіі) — маці не толькі хрысціцеля Полацкага княства Ізяслава, але і кіеўскіх князёў, сыноў Уладзіміра Хрысціцеля — Яраслава Мудрага, Ізяслава, Усевалада. Унучка славутага князя Усяслава Чарадзея, заснавальніца полацкіх жаночага і мужчынскага манастыроў і Спаса-Ефрасіннеўскай царквы (захавалася ў аўтэнтычнай архітэктоніцы з сярэдзіны XII стагоддзя), полацкага рукапіснага выдавецтва і першай школы для дзяўчат, агульнахрысціянская (праваслаўная і каталіцкая) святая, сваім падзвіжніцтвам, грамадска-дзяржаўнай дзейнасцю і ўзорным жыццём зрабіла моцнае ўражанне на ўсе рэгіёны старадаўняй Русі. Яе мошчы захоўваюцца ў Полацкай Спаса-Ефрасіннеўскай царкве. Там жа цуд ювелірнага мастацтва — адноўлены крыж Ефрасінні Полацкай (арыгінал работы майстра Богшы знік у пачатку другой сусветнай вайны). Сімвалам хрысціянскага асветніцтва стаў прысвечаны Боскай мудрасці Полацкі Сафійскі сабор — чацвёрты ў свеце храм такога тыпу пасля Канстанцінопальскага (цяпер турэцкая мячэць), Кіеўскага і Наўгародскага. Ф. Скарына — перакладчык, каментатар і выдавец першай ілюстраванай беларускай і ўсходнеславянскай Бібліі рэнесанснага свецкага тыпу (Прага, 1517—1519), новазапаветных кніг пад агульнай назвай "Апостал" і "Малой падарожнай кніжкі" (Вільня, 1522—1525).

У рамках асветніцкага перыяду гісторыі хрысціянства пачалася палеміка паміж маскоўскім і беларуска-віленскім цэнтрамі Праваслаўнай царквы. Ужо ў 1316 годзе ў Навагрудку ўзнікла незалежная ад маскоўскага мітрапаліта царкоўная іерархія (першы навагрудскі мітрапаліт Феафіл — грэк). Па ініцыятыве вялікага князя Вітаўта ў Навагрудку склікаўся царкоўны сабор (1415), які абвясціў незалежнасць беларуска-літоўскай праваслаўнай царквы ад маскоўскага мітрапаліта і канстанцінопальскага патрыярха. Але гэта была часовая аўтакефалія.

Палемічны этап хрысціянства пачаўся ў другой палове XVI стагоддзя, калі пасля ўзмацнення каталіцкага Касцёла ў Беларусі праваслаўнае насельніцтва, у тым ліку феадальныя вярхі, губляла свой былы ўплыў на дзяржаўнае жыццё краіны.

Тады ж узніклі рэфармацыйны рух, пратэстанцкія канфесіі розных плыняў кальвінізму і соцыянства (лідэр Сымон Будны, каля 1530—1593) з цэнтрамі ў беларускіх мястэчках і гарадах Нясвіж, Клецк, Лоск (каля Валожына), Вішнева (Валожынскі раён) і іншых. Палеміка і рэлігійная барацьба ўзмацніліся пасля таго, як у Беларусь былі закліканы каталіцкі Ордэн Езуітаў, які заснаваў тут свае калегіі і місіі са школамі, іншымі ўстановамі. Выдатнымі цэнтрамі езуіцкага школьнага асветніцтва былі Полацк, Нясвіж, Вільня, Навагрудак, іншыя гарады, мястэчкі і сёлы Беларусі. Лідэр польска-беларускіх езуітаў Пётр Скарга прапанаваў ідэю стварэння адзінай хрысціянскай царквы на Беларусі і Украіне пад кіраўніцтвам папы рымскага — царкоўнай уніі. Паводле гэтай ідэі, Праваслаўная Царква захоўвала свой абрад і беларускую культурна-нацыянальную традыцыю, але прымала каталіцкія догматы.

Гэтая ідэя была рэалізавана на Брэсцкай царкоўнай уніі (кастрычнік 1596), якая прычынілася да багатай палемічнай літаратуры. На баку уніятаў выступалі П. Скарга, Іпат Пацей, Язэп Руцкі і іншыя; на баку праваслаўя — Лявон Карповіч, Мялет Сматрыцкі (да пераходу ва уніяцтва, 1628) і асабліва Афанасій Філіповіч (каля 1597—1648), ігумен Брэсцкага манастыра, залічаны Праваслаўнаю Царквою да ліку святых пакутнікаў.

**Працяг.**
**Пачатак у № 25.**

ФАКТ З ГІСТОРЫІ

# ПЕРАМАГЧЫ І ВЫЖЫЦЬ

● Аляксандр УРУБЛЕЎСКІ.

Другая сусветная вайна прынесла беларускаму народу незлічоныя бедствы, людскія, матэрыяльныя і культурныя страты. У той суровы час беларусы аб'ядноўваліся, каб змагацца з фашысцкай агрэсіяй, каб перамагчы і выжыць.

У гадзіну выпрабаванняў разам са сваім народам заставалася і царква. Яна, нягледзячы на дзесяцігоддзі жорсткіх перадваенных ганенняў і рэпрэсій з боку савецкай дзяржавы, не толькі змагла выстаяць, але беражліва захоўвала агульначалавечыя, агульнахрысціянскія каштоўнасці, назапасіла вялікі зарад дабрыні і міласэрнасці, што дазволіла ёй захаваць глыбокі маральны аўтарытэт сярод насельніцтва. Так, згодна перапісу 1937 года, дзве трэці сельскага насельніцтва Беларусі і адна трэць гарадскога шчыра верылі ў Бога. Гэты аўтарытэт захаваўся і ў вогненным смерчы вайны.

Адным з напрамкаў патрыятычнай, міласэрнай дзейнасці царквы быў збор матэрыяльных сродкаў у фонд абароны дзяржавы і ў фонд дапамогі дзецям-сіротам і сем'ям воінаў і партызан, якія загінулі. Гэта дабрачынная праца вялася ва ўмовах гаротнага матэрыяльнага становішча народа. Яна разгортвалася па меры вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў і аднаўлення дзейнасці ўцалелых ад разбурэння праваслаўных храмаў. Ужо ў канцы 1944 года ў Бялыніцкім, Быхаўскім, Горацкім, Дрыбінскім, Краснапольскім, Касцюковіцкім, Крычаўскім, Клімавіцкім, Круглянскім, Магілёўскім і Шклоўскім раёнах Магілёўскай вобласці дзейнічалі 42 праваслаўныя царквы.

Святары і вернікі гэтых храмаў толькі ў верасні-снежні 1944 года добраахвотна ўнеслі ў фонд абароны краіны 1 639 393 рублі, у фонд дапамогі сіротам і сем'ям загінуўшых байцоў Чырвонай Арміі і партызан 551 082 рублі.

Асабісты ўклад у фонд абароны архіепіскапа Васіля Мінскага і Беларускага, які ў той час узначальваў Беларускую праваслаўную царкву, склаў 110 000 рублёў. Гэта былі першыя сціплыя добраахвотныя ахвяраванні духавенства і веруючых Беларусі.

РЭЛІКВІІ ВЕРНУТЫ Ў ХРАМЫ

Пятнаццаць унікальных ікон, многія з якіх, на думку экспертаў, з'яўляюцца бясцэннымі, стараабрадныя крыжы і іншыя духоўныя каштоўнасці перадаў начальнік Упраўлення КДБ па Гомельскай вобласці Мікалай КАРАТКЕВІЧ архіепіскапу Гомельскаму і Жлобінскаму АРЫСТАРХУ (на здымку). Рэліквіі канфіскаваны ў ходзе правядзення аператыўных мерапрыемстваў па выяўленню злачыннай групоўкі. Усе рэчы трапяць у храмы, што будуюцца ў Гомелі і ў Карме.



**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ



# ШУКАЮЦЬ Янку ГАЛЁТУ

Дапамажыце, калі ласка, адшукаць майго земляка, чалавека цяжкага і складанага лёсу.

Завуць яго **Іван Раманавіч ГАЛЁТА.** Нарадзіўся ён у 1923 годзе на хутары Лыскі, паблізу вёскі Буса, цяпер Моладаўскага сельсавета Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Вучыўся ў польскай школе ў вёсцы Буса.

У 1939 годзе, пасля прыходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь, новая ўлада па даносу суседа расстраляла бацьку Янкі, бо той працаваў лесніком і лічыўся "эксплуататарам". 16-гадовы хлопчык бачыў гэта забойства, бо схаваўся на гарышчы хаты. Сям'ю — маці, брата Рыгора, сястру Зіну і Янку выслалі ў Архангельск.

Пра іх далейшы лёс вядома, што карабель, на якім сям'я бацька (?) — сям'я быццам ехала ў Амерыку, патануў. Застаўся адзін Янка, бо быў прызваны ў армію. Вядома з іх двух пісьмаў, дасланых дваюраднаму брату, што ён вучыўся ў Англіі, а пазней стаў ваенным лётчыкам ЗША. Адзіны фотаздымак, датаваны 1 лютага 1948 года, атрыманы з подпісам на польскай мове. Больш пісьмаў няма, бо было забаронена перапісвацца, — такі быў час.

Дзе цяпер Янка Галёта? Вельмі верыцца, што ён яшчэ жывы, што ў яго ёсць дзеткі і ўнукі. У вёсцы Буса спадзяецца на сустрэчу 103-гадовая цётка Тэкля, дваюрадныя сёстры і браты.

**Па просьбе сястры Зінаіды — Ганна БЯРЭЗІНА.**

**220024, г. Мінск, вул. Пухавіцкая, д. 19, кв. 75, тэл. 275-83-95.**

ЭСТОНІЯ

**Уладзімір ДЗЕХЦЯРУК**

## СПОВЕДЗЬ

*Я ніколі не думаў аб тым,*
*Што жыцьця майго стужка парвецца,*
*Што я буду ў пакоі пустым*
*Разважаць, як мне дрэнна жывецца,*
*Што начамі я буду не спаць*
*І камечыць кавалкі паперы,*
*І складаць свае вершы, і знаць,*
*Што ніхто не пастукае ў дзьверы.*

*Я імкнуўся заўжды да цяпла,*
*Бо яно аддавала пяшчотай,*
*Але лёд падступаў да жытла,*
*Прабіраўся праз шчылінкі ўпотай.*
*Я не здолеў яго растапіць,*
*Бо сагнуўся пад цяжарам ношы,*
*Як адчуў, што прадаць і купіць*
*Усё змагла ты за Юдзіны грошы.*

*Я стаміўся надзею шукаць,*
*Усё парваўшы напружаным рухам,*
*І пачаў па дарогах блукаць,*
*Падстаўляючы твар завірухам.*
*І ішла са мной побач бяда,*
*З ёй суседства было не пазбыцца.*
*...Прамільгнула гадоў чарада,*
*Аб якіх лепш было-б і забыцца.*

*Ды не здолець. Магчыма таму,*
*Што ад лёсу няма ратаваньня,*
*Што нялёгка далей аднаму*
*Несьці цяжкасьць свайго існаваньня.*
*Я ніколі не думаў аб тым,*
*Што хлусьня ўсім кіруе на сьвеце...*
*Вось рука на Пісаньні Сьвятым!*
*Невіноўны я! Чуеце, дзеці!?*

Ківіылі, 1993 год.

ГАЛЕРЭЯ МАЙСТРОЎ

## ФАНТАЗІІ, ВЫПІСАНЫЯ КРЫЖЫКАМ





Марыя АНАНІЕВА — майстар па вышыванню Пастаўскага Дома рамёстваў. Арыгінальныя пано, сурвэткі, ручнікі, створаныя рукамі гэтай майстрыхі, ніколі не пакідаюць абыякавымі наведвальнікаў выстаў.

НА ЗДЫМКАХ: Марыя АНАНІЕВА; работа майстра.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА,** БелТА.

ДА 60-годдзя Яна ЧЫКВІНА

# «ЗГАРТАЮ СВЯТЛО ДА СВЯТЛА...»

**● Анатоль РАМАНЧУК.**

СУЧАСНУЮ беларускую літаратуру немагчыма ўявіць без такой арыгінальнай з'явы, як літаратура "Белавежы". Яе чыннікі — беларускія пісьменнікі, што жывуць і твораць у Польшчы на нацыянальна-культурным памежжы.

Асоба Яна Чыквіна, яго творчасць — яркі прыклад памежнага бытавання. Адзін са старэйшых беластоцкіх аўтараў, які стаяў каля вытокаў літаб'яднання "Белавежа", які цягам дзесяцігоддзяў актыўна прымаў удзел у грамадска-культурнай дзейнасці беларусаў Беласточчыны, адзначае сёлета свой шасцідзесяцігадовы юбілей. Нарадзіўся паэт 18 мая 1940 года ў Дубічах-Царкоўных на Беласточчыне, насельніцтва якой спрадвеку лічыла сябе беларусамі. Дзяцінства праходзіла ў вясковым асяродку, напоўненым усімі цудоўнымі і будзённымі рэаліямі такога існавання. Гэты чароўны свет з яго арганічнай далучанасцю да жыцця прыроды, з натуральным дзіцячым існаваннем сярод лугоў і лясоў паэт пазней назаве сваёй "Аркадзіяй".

У другой палове пяцідзесятых гадоў на Беласточчыне распачаліся заканамерныя працэсы нацыянальна-патрыятычнага самаўсведамлення беларусаў, што выявілася ў пашырэнні грамадскага і культурнага руху. Восьмага чэрвеня 1958 года адбыўся першы арганізацыйны сход, на якім прыняті статут аб'яднання "Белавежа" і выбралі праўленне. Літаб'яднанне, як і БГКТ (Беларускае грамадска-культурнае таварыства), злучыла творча настроеных патрыётаў, што жадалі актыўна ўдзельнічаць у жыцці сваіх землякоў-беларусаў. Пачала выдавацца беларускамоўная газета "Ніва", некалькі іншых выданняў, дзе прадстаўлялі сваю творчасць "белавежцы". Ян Чыквін, паступіўшы на філалагічны факультэт Варшаўскага універсітэта, прымаў актыўны ўдзел у нацыянальна-беларускай літаратурнай і культурнай дзейнасці.

У 1969 годзе ў выдавецтве ГП БГКТ выходзіць першы зборнік вершаў Яна Чыквіна "Іду". Кніжка змясціла вынікі доўгай дзесяцігадовай руплівай працы. Зборнік звярнуў на сябе ўвагу выверанай кампазіцыйнай завершанасцю, строгім адборам твораў, якія ўжо прэзентаваліся чытачу. Такое імкненне да дасканаласці было ў пэўнай ступені праяўленнем унутранай, душэўнай завершанасці. Другі зборнік "Святая студня" з'явіўся праз год.

Лірычны герой гэтых кніг спрабуе засярodзіцца на ўнутраным стане індывідуума, разабрацца ўледзь улоўных і патаемных зрухах душы. Пачынае праяўляцца матыў нерастанага смутку і неспакою, што стане адным з асноўных у лірыцы Я. Чыквіна:

*З грацыі кветак музыкай б'е.*
*Восень на нотах развешана,*
*бліснуць высока лета бабіна —*
*шчасце ўстрывожана ўсмешкаю.*

*Пад грушамі зноў грушапад,*
*як быццам заплакалі грушы,*
*што нельга ім у полі пагушкаць —*
*на ключ журавоў закрыты сад.*

У разуменні лірычнага героя самае душэўнае, дарагое, лепшае засталося дома, у дзяцінстве. Герой жыве ўспамінамі. У паэзіі Яна Чыквіна даследчыкі вызначылі пэўныя архетыпы і асноўныя матывы: творча бацькоўскі дом, свет дзяцінства і... жаданне, зразумела, вярнуцца да ўсяго гэтага. Трэба прызнаць, герой вершаў ведаў, што часцей за ўсё вяртанне магчыма толькі ўяўнае.

Па-маладому смела, з запалам узяўся паэт за найскладанейшую форму — вянок санетаў. Вянок "Святая студня", што даў назву ўсяму зборніку, з'явіўся творам, дзе ўспомніліся ці адгукнуліся пакутлівыя блуканні літвіна Адама Міцкевіча. Я. Чыквін спрабуе перадаць душэўны стан свайго лірычнага героя, якога, вядома, нельга напрамую атаясамліваць з гістарычнай постаццю. Гэта хутчэй псіхалагічны злепак, эксперымент усвядоміць адчуванні не проста класіка, а чалавека з няўдзячным лёсам.

*Дзе Рым, дзе Крым, а дзе мая айчына!*
*Дзяцінства босае, замурзанае лета,*
*Святая студня з жураўлём ўспамінаў,*
*Сезам, дзе ўсё маё ляжыць ў фрагментах...*

Кнігі "белавежца" найчасцей закранаюць праблемы і пытанні, што тычацца існавання індывідуума найперш як духоўнай асобы. Ва ўзбагачэнні духоўнай значнасці чалавека бачыцца шлях і да нацыянальнага самаўсведамлення, і да ўдасканалення сацыяльна-грамадскіх адносін. Але сам чалавек павінен сцвердзіць сваю каштоўнасць, павінен заставацца актыўным ва ўсіх сферах сваёй дзейнасці і бытавання.

Сакрат Яновіч у прадмове да трэцяй кнігі "Неспакой" (1977) зазначаў: "Чыквін — паэт задуменняў. Паэт пытанняў. Лірык інтэлекту. Выхаваны на сутыку беларуска-польскай-рускай традыцыяў".

Цікава, што адначасова кніга "Неспакой" Я. Чыквіна напоўнена... спакоем. Гэта адчуванне даецца герою нялёгка, праз пастаянныя роздумы і рэфлексіі. Усё спакайней глядзіць ён на непарушныя законы быцця.

*Усё было справядліва ў прыродзе —*
*Далёка дзесьці была недарэчнасць*
*Адвечнай смерці, што прыйдзе і пройдзе,*
*А ўсё-такі нешта пакіне на вечнасць.*

Зборнік "Светлы міг" (Мінск, 1989 год) адкрывае новыя далягляды ў разуменні быцця, асобы лірычнага героя і самога аўтара.

У кнігах Я. Чыквіна з вялікай выразнасцю сімвалізуюцца многія канкрэтна-рэальныя і спрадвечна-літаратурныя вобразы: агарод, сад і сонца, ноч; квадры прыроды і смерць... Напрыклад, агарод настолькі апаэтызаваны хіба толькі ў Я. Чыквіна. Агарод цалкам страчвае сваю практычную сутнасць, ператвараючыся ў месца эмацыянальнай гармоніі. Такая пазіцыя пазначана ў зборніках, стэрыльных ад апявання ўласнай цягі да сялянскай працы. Сапраўды, колькі прыкладаў ёсць у нацыянальнай літаратуры такога "пранікнёнага" замілавання, якое ўжо набіла аскоміну чытачу, асабліва сучаснаму гарадскому. Прыгадваецца паэзія "чыстай красы" М. Багдановіча, а таксама "нашаніўская" дыскусія. Трэба прызнаць, што "вясковая" паэзія нярэдка грашыла ў якасных і колькасных паказчыках адносна "песні" аб цяжкай ва ўсе часы сялянскай долі. Творчасць Я. Чыквіна пазбаўлена і гэтых штампаў. Вёска, прырода — свет гармоніі і натхнення, аддалены па сваёй сутнасці, як чыста практычная з'ява, і гранічна прыбліжаная, знітаваная, як крыніца першаснай духоўнасці.

Паэзія Яна Чыквіна 90-х гадоў уяўляецца з'явай шматмернай, поліфанічнай. Гэта прынцыпова новы этап у творчасці аўтара. Ён мае сваю неадназначную канцэпцыю, з'яўляецца працягам папярэдняй мастацка-паэтычнай працы.

Зборнік "Кругавая чара" (1992 год) нясе шмат у чым экзістэнцыяльны пачатак. Больш шасць вершаў так ці інакш прадстаўляюць пытанні, што тычацца сэнсу чалавечага існавання, усеагульных законаў быцця. Лірычны герой "Кругавой чары" ўяўляецца стомленым і смуткуючым прадстаўніком нашага часу.

*Што ёсць быццё? Што — чалавек? Што — Бог?*
*Чаму нікому нельга лёсу перайначыць?*
*Не адсуме смутак нашых ўсіх зямных трывог —*
*З вачэй зляце белы анёл жалю.*

*І што ёсць час — рака ці акіян?*
*Вытокі дзе яго? І дзе яго скрыжалі?*
*Смыліць бяскрылы лёт жыцця, нібы павей фіранкі, —*
*З вачэй злятае белы анёл жалю.*

"Кругавая чара" — вынік маральна-духоўных перапетый інтэлігента "каму за сорак", але ў той жа меры і новы віток мастацкага эксперыменту, творчага пошуку сапраўднага майстра.

У паэзіі Яна Чыквіна вельмі добра адчуваецца тая дамінантная лінія, што працінае ўсю беларускую літаратуру — патрыятычнае служэнне нацыянальнай ідэі. Пры гэтым прамень патрыятызму не рэжа вочы лозунгавасцю і гучнымі выклікамі. Ён роўным святлом суму ацяпляе сэрца, трымае цень асіміляцыі ўсё ж такі хоць трохі, але наводдалі. Пасіянарна-патрыятычная ідэя існуе не абмежавана, яна ўключана ў складаны комплекс самых разнастайных філасофскіх разваг, эстэтычных поглядаў, жыццёвых прынцыпаў. Так жыве сучасны паэт.

Мы не зможам знайсці нават драбніцы нацыяналізму ў кнігах Я. Чыквіна. Людзі Беласточчыны пастаўлены ў незвычайныя палітычна-грамадскія, этнічныя ўмовы. Дзейнасць "белавежцаў", іх творчасць нагадваюць рух Месяца вакол Зямлі. Спадарожнік прыродна не можа адарвацца, вызваліцца ад законаў, ён прыцягваецца да планеты, але разам з тым жыве ў магутным полі прыцягнення Сонца. Таму "Паэта цень выходзіць ў белчырвона-белае ўбраньі...". Таму — "Я вельмі самотны — айчыны не маю, Матчынай ласкі".

Вершы Яна Чыквіна арганічна ўпісваюцца як у рэчышча сучаснай беларускай літаратуры, так і ў шырокі агульнаеўрапейскі, і шырэй — сусветны культуралагічны кантэкст.



**ЛІТАРАТУРНЫЯ ЧЫТАННІ**

# ПРАЎДЗІВАЯ ГІСТОРЫЯ КРАІНЫ ХЛУДАЎ

**Алег МІНКІН**



## КРАІНА ХЛУДАЎ

### З ГІСТОРЫІ Й ГЕОАГРАФІІ КРАІНЫ ХЛУДАЎ

Ёсьць на сьвеце такая Краіна Хлудаў, ці, як яе найчасьцей называюць самі хлуды, — Хлудзія. Дакладней, гэта нават ніякая не краіна, а толькі невялічкае мястэчка, забудаванае драўлянымі хацінамі й аднапавярховымі камяніцамі й абнесенае Высокім квадратным парканам. Таму, хто ўпершыню патрапляе ў мястэчка, здаецца, што ён апынуўся на дне глыбокай змрочнай студні, выкараскацца зь якой немагчыма, — такі ўжо высокі гэты паркан. Самі ж хлуды, якія нарадзіліся й вырасьлі тут, такіх параўнаньняў, зразумела, ня робяць.

На адлегласьці сотні крокаў ад Высокага квадратнага паркану й раўналежна яму праходзяць чатыры вуліцы, якія таксама ўтвараюць квадрат. Гэта вуліца Вернасьці, вуліца Тонкіх-да-нябачнасьці намёкаў, вуліца Каляровых думак і вуліца Туманнага парадоксу. На рагу вуліцы Вернасьці й вуліцы Тонкіх-да-нябачнасьці намёкаў месьціцца шынок "Грукат сэрца", дзе жыхары мястэчка бавяць час за прыемнымі размовамі й расьпіцьцём "Горкага палыну" — улюбёнага трунку хлудаў. На рагу вуліцы Тонкіх-да-нябачнасьці намёкаў і вуліцы Каляровых думак высіцца гмах Фабрыкі-кухні парадаксальных ідэяў — хлудзкай акадэміі. На рагу вуліцы Каляровых думак і вуліцы Туманнага парадоксу — сямейны інтэрнат сьмецяроў. І, нарэшце, на рагу вуліцы Туманнага парадоксу й вуліцы Вернасьці знаходзіцца Сажалка.

Паласа паміж Высокім квадратным парканам і вышэй адзначанымі чатырма вуліцамі пакрытая дрэвамі й хмызамі. Гэта Нясумныя прысады — рэшткі старажытнай пушчы, на месцы якой узьнікла Хлудзія.

Шынок "Грукат сэрца" й сямейны інтэрнат сьмецяроў лучацца паміж сабою шырокім бульварам Абяцянкаў-цацанкаў. Другая ўскосная вуліца злучае ФКПІ (Фабрыку-кухню парадаксальных ідэяў) з Сажалкаю й носіць назву праспэкта Маралістых-эквілібрыстых. На скрыжаваньні бульвара Абяцанкаў-цацанкаў і праспэкта Маралістых-эквілібрыстых ляжыць невялікі Пляц з Палацам гаспадароў на адным баку й асабняком Шампанскага — на другім.

Апроч пералічаных ужо вуліцаў, ёсьць ячшэ адна, якая бярэ пачатак ад вуліцы Вернасьці й абрываецца каля адзінай у Высокім квадратным паркане Брамы. Брама тая заўсёды замкнёная, і, мабыць, таму хлуды вуліцаю гэтаю амаль не карыстаюцца й празвалі яе вуліца Зарослая пустазельлем.

Флёра краіны складаецца зь Нясумных прысадаў, дрэваў, высаджаных усьцяж бульвару Абяцанкаў-цацанкаў, а таксама хмызоў і кветак пад вокнамі хатаў і камяніцаў. І фаўна гэткая ж небагатая: у зацягнутай раскаю Сажалцы ня водзіцца аніякая рыба — жыве тут хіба колькі сотняў жабаў, а ў прыбярэжных кустах лётаюць агністыя матылькі й смарагдзістыя стракозы; у Нясумных прысадах сустракаецца даволі багата конікаў, а ў шатах дрэваў тужліва крычаць нейкія чубатыя, са стракатым апярэньнем птушкі.

Карэннае насельніцтва Хлудзіі — хлуды й іншаземец Шампанскі, які, хоць і нарадзіўся ў Краіне Хлудаў, зьяўляецца аднак уладальнікам замежнага пашпарту.

Пра тое, што адбывалася ў краіне ў прамежку часу ад першага легендарнага гаспадара Вісуса Прапаснага да цяперашняга Вярэні Водае, можна даведацца з шаснаццацітомнай "Гісторыі Краіны Хлудаў", выдадзенай нядаўна гістарычным факультэтам ФКПІ. На жаль, шматлікія гістарычныя падзеі ў гэтай "Гісторыі" пададзеныя ня так, як гэта было ў сапраўднасьці, а іншыя зь іх дык увогуле не знайшлі на ейных старонках свайго адлюстраваньня: кожны новы гаспадар перапісвае хлудзкую гісторыю нанова ў залежнасьці ад сваіх прыхамацяў і густаў.

Вось, бадай, і ўсё, што можна сказаць пра хлудзкую геаграфію й гісторыю. Дадамо толькі, што празь непамерную вышыню Высокага квадратнага паркану сонца ніколі не зазірае ў Хлудзію, і, здараецца, бясхмарным днём на квадраце хлудзкага неба можна бачыць бляклыя агеньчыкі зорак. З тае самае нагоды ўлетку тут вельмі сыра, а ўзімку мястэчка пад самыя дахі заносіць сьнегам, — і таму хлуды змушаныя штогод упадаць у доўгую зімовую сьпячку.

### НЕЗНАЁМЕЦ У НАПАЎВАЙСКОВЫМ ФРЭНЧЫ

Зразумела, паколькі йснуе брама ў якуюсь краіну, то ў гэтую, няхай сабе й заўсёды замкнёную, браму абавязкова хтосьці калі-небудзь ды ўвойдзе. І таму ня выключана, што Цмок Калывок пранік у Хлудзію праз Браму ў Высокім квадратным паркане. Зрэшты, ёсьць і іншыя вэрсіі: а) Цмок Калывок патрапіў у краіну цераз лаз, пракапаны ім асабіста, б) прасачыўся празь нябачныя воку шчыліны ў паркане, в) ён увогуле ніадкуль не прасачыўся, а нарадзіўся й вырас у Хлудзіі. Дакладна вядома толькі тое, што першы яго ўбачыў іншаземец Шампанскі, які адвячоркам шпацыраваў па сваёй даўнай завядзёнцы па вуліцы Зарослай пустазельлем. Было ўжо досыць цёмна, і іншаземец заўважыў Цмока Калывока толькі тады, калі лоб у лоб сутыкнуўся зь ім. "Sorry", — цераз зубы працадзіў Шампанскі, паціраючы выцятае месца, і пільна паглядзеў у твар незнаёмаму ў наглуха зашпіленым напаўвайсковым фрэнчы. Незнаёмец нічога не адказаў, і Шампанскі ў каторы раз падумаў, што было б някепска выкарыстаць свой замежны пашпарт і назаўжды пакінуць абрыдлую Краіну Хлудаў.

Крыху пазьней, на вуліцы Вернасьці, загадкавы незнаёмец на горкі яблык зьбіў прахвэсара ФКПІ Вуха Перакідніка. Рэпарцёру газэты "Нехлусьлівы хлуд", які ўзяў у яго інтэрвію на месцы здарэньня, Цмок растлумачыў: "Я лішні раз хацеў пераканацца, чаго вартыя хлуды зь іхнімі бясконцымі размовамі пра парапсыхалёгію, мастацтва й вольнае каханьне".

Наступным месцам, дзе зьявіўся незнаёмец, быў шынок "Грукат сэрца" — згрузлая камяніца з чырвоным, прабітым блакітнаю стралою сэрцам замест шыльды. Таго адвячорка ў шынку сабралася ледзьве ня ўся местачковая багема. У шызых хвалях цыгарэтнага дыму столікі, пры якіх сядзелі багемаўцы, здаваліся маленькімі падводнымі лодкамі. Закураныя скляпеньні залі адбівалі густы, аднастайны гул галасоў, і збоку магло падацца, што заўсёднікі шынка, ня слухаючы й перапыняючы адзін аднаго, выказваюць самыя неверагодныя й супярэчлівыя думкі й меркаваньні, даўно ўжо не разумеючы, пра што ідзе гаворка. Самі ж багемаўцы называлі гэта "творчым сумоўем".

Прысадзістая постаць, абцягнутая напаўвайсковым фрэнчам, вырасла перад наведнікамі шынка нібыта з-пад зямлі. Суровы й незнаёмы багемаўцам хлуд спыніўся пасярод залі й застыў у самай, на якую толькі быў здольны, пагрозьлівай паставе. На ягоным твары злавесна блішчэлі чорныя акуляры, а на вуснах блукала жорсткая ўсьмешка. "Сьмірна, інтэлігенты!" — выгукнуў ён. У гэты момант усім вядомы мастак Круцель Манцель абапёрся, як на калёну, на Цмока Калывока, струнуў з цыгарэты слупок попелу на ягоны напаўвайсковы фрэнч і з сумнаю ўсьмешкаю прамовіў да народнага пісьменьніка Цьвінтарэя: "Жах вечара ў тым, што ўсьлед за ім непазьбежна надыходзіць ноч. А што можа быць горш за непазьбежнасьць?"

Злавесна бліснуўшы на Круцеля Манцеля чорнымі акулярамі, Цмок крута павярнуўся й скіраваў да выхаду.

### КОЛА ЗАМКНУЛАСЯ!

У сенцах "Грукату сэрца" незнаёмец лёгкім рухам ускінуў на карак бочку "Горкага палыну" і, адштурхнуўшы да сьцяны зьбянтэжанага шынкара Лажбеля, выйшаў вонкі. На вуліцы ён сагнаў з вуснаў жорсткую ўсьмешку, прыгасіў пагрозьлівы бляск непранікальна-чорных акуляраў і, неміласэрна штурхаючы сустрэчных, страявым крокам рушыў да сямейнага інтэрнату сьмецяроў.

Сьмецяры былі хлуды вельмі далёкія ад парапсыхалёгіі й іншых вытанчаных навук, што буяюць на ўзьмежку розуму й таямнічых глыбіняў падсьвядомасьці. Таму, мусіць, яны займаліся самаю простаю фізычнаю працаю: прыбіралі захлуджаныя за дзень вуліцы, рапаравалі старыя будынкі, варылі "Горкі палын", а таксама чаканілі "асьмакі" — манэты з выяваю цяперашняга гаспадара Вярэні Водае. І хоць тыя асьмакі, згодна з законам, разьмяркоўваліся паміж хлудамі ў залежнасьці ад кірунку ветру й колеру вачэй — большая частка іх асядала чамусьці ў кішэнях прахвэсараў ФКПІ, багемаўцаў, хлудаў, блізкіх па духу да багемаўцаў, дый іншых арыстакратаў. Таму зразумела, як узрадаваліся сьмецяры, калі нейкі незнаёмы, апранены ў просты напаўвайсковы фрэнч, выкаціў ім дармовую бочку "Горкага палыну". Такое здарылася, мусібыць, упершыню ў гісторыі Краіны Хлудаў.

Неўзабаве ў сямейным інтэрнаце сьмецяроў пачуліся воклічы й бяседныя песьні. А яшчэ па нейкім часе Цмок Калывок быў прызнаны да скону сваім, і большасьць сьмецяроў пакляліся яму ў вечным сяброўстве. Пасьля клятвы ўсе да аднаго, хто яшчэ трымаўся на нагах, прычасаліся адным грабянцом, што сымбалізавала ў сьмецяроў еднасьць поглядаў і поўную аднадушнасьць.

Наступнага ранку іншаземец Шампанскі прачнуўся ад нязвыклых выкрыкаў: "Напра-ва! Нале-ва! У два шыхты ста-вай!" Са зьдзівам прыслухоўваючыся да непрыемнага, як скрыгат спружынавага ложку, голасу, Шампанскі, тым ня менш, ад душы павіншаваў сябе, бо ён увогуле любіў сябе віншаваць. "Ніхто гэтага ня зробіць лепш за мяне!" — справядліва меркаваў ён. Затым Шампанскі зазірнуў пад падушку й, пераканаўшыся, што ягоны пашпарт ляжыць на сваім заўсёдным месцы, з замілаваньнем пагладзіў аксамітную, з гербам нейкае краіны вокладку дакумента. Толькі пасьля гэтага ён выглянуў у вакно й быў вельмі ўражаны, ўбачыўшы сьмецяроў, якія кароткімі перабежкамі, угінкам, нібыта хаваючыся ад нябачнага ворага, з усіх бакоў набліжаліся да Палаца гаспадароў. Па характэрным бляску ў хмызьняку, што рос перад вакном, Шампанскі пазнаў учарашняга нахабніка ў напаўвайсковым фрэнчы: так маглі блішчэць толькі ягоныя чорныя акуляры. І тут іншаземец узгадаў, што Палац спакон вякоў нікім не ахоўваецца. Ён яшчэ крыху паназіраў за звар'яцелымі сьмецярамі, а затым пасунуўся на кухню, бо жыцьцё ягонае было разьмеркавана па хвілінах, і сьняданак быў для Шампанскага важнейшы за самыя пакручастыя выбрыкі хлудзкай гісторыі.

Тым часам пад звон шыбаў, якія білі сьмецяры, Цмок Калывок уварваўся ў тронную залю. Гаспадар Краіны Хлудаў, як нічога ніякага, ціхамерна пасопваў, адкінуўшыся на ірховы прыслон свайго ўтульнага трону-гушкаўкі.

— Ану, злазь! — выдыхнуў яму проста ў вуха Цмок.

Вярэня Водае прыспана зірнуў на прысадзістую, шчытна абцягнутую напаўвайсковым фрэнчам постаць, страсянуў галавою й зноў зьбіраўся быў заснуць, ды прэтэндэнт на трон груба штурхануў яго ў плячо й як мага больш пагрозьліва загадаў:

— Злазь, кажу табе!

Пасьля гэтага гаспадар хлудаў нарэшце прачнуўся. Ён з тугою акінуў позіркам шырокія рамёны й важкія кулакі новага прэтэндэнта й мацней учаперыўся ў падлакотніцы трону-гушкаўкі.

— Не магу. Я тут заўсёды сяджу!

— Пасядзеў, цяпер дай іншаму пасядзець! — злосна прасіпеў Цмок і аберуч ухапіў Вярэню Водае загрудкі, сілячыся адарваць яго ад трону. Аднак, хоць трон разам з гаспадаром і прыўзьняўся над падлогаю, той не адпускаў падлакотніцы.

— Усё роўна ня зьлезу, — прахрыпеў гаспадар і, хапянуўшы паветра, дадаў: — каўнер, ёлупень, адарвеш!

— Я табе пакажу ёлупня! — зароў Цмок і кулаком штомоцы выцяў свайго ворага па блішчастым плеху.

Пальцы гаспадара расьціснуліся, і трон-гушкаўка чмякнуўся на сваё заўсёднае месца. "Кола замкнулася!" — прашаптаў Вярэня Водае. Гэта былі яго апошнія словы.

**ВЫСОКІ КВАДРАТНЫ ПАРКАН**




**БРАМА**

**Працяг будзе.**

КІНОШНЫЯ БАЙКІ

Складальніка "Кіношных баек" прадстаўляе паэт Рыгор БАРАДУЛІН:

Дзмітрый МІХЛЕЕЎ

*Міхлееў тут, Міхлееў там —*
*І піша і малюе сам,*
*Яшчэ, як дзядзька-*
*чарадзей,*
*Здымае фільмы для дзяцей.*
*Спрабуе скрозь сябе*
*Дзімітры,*
*Мільгаюць хобі, быццам*
*цітры.*



Д. МІХЛЕЕЎ. Аўташарж.

# І ВЫ ПАЙШЛІ СУПРАЦЬ...

Была кароткая адліга шасцідзесятых гадоў, на "Беларусьфільме" з'явіліся маладыя творцы новага беларускага кіно — Тураў, Сцяпанаў, Бычкоў. У гэтую ж кампанію ўваходзіў і рэжысёр Валянцін Віградаў з фільмам пра гераіню беларускага народа падпольшчыцу Веру Харужую. Аўтарам сцэнарыя быў вядомы не толькі па творчасці, але і па жывучасці — без адзінай драпіны праскочыў і трыццатыя і "саракавыя ракавыя" — Алесь Кучар. Дарэчы, "партыйная мянушка" ў Кучара была "Коннік без галавы". Гэта таму, што калі ён пад'язджаў да студыі на сваёй манументальнай "Волзе", яго галавы не было бачна з-за руля па прычыне маленькага росту.

Сцэнарый быў даволі прахадны, здымкі пачаліся. Але малады, яршысты рэжысёр перапісаў сцэну допыту гераіні. Акцёр Пракаповіч з каменным тварам і ледзянымі бясколернымі вачыма, па фактуры тыповы "гестапавец", іграў "гэпэушніка". І вось у яго кабінет уводзяць гераіню. Следчы:

— Сядайце, абвінавачваемая.

— Я не абвінавачваемая. Я падследная.

Следчы дорыць ёй усмешку, якая ледзяніць душу, запальвае папіросу, падыходзіць да акна. А за акном — Масква, Лубянская плошча, першамайская дэманстрацыя, транспаранты, партрэты правадыроў, духавыя аркестры, свята! Следчы паварочваецца да гераіні, камера наязджае на яго, каб засняць буйным планам, ён паказвае на акно і пасля свінцовай паўзы ціха гаворыць:

— Гэта яны — падследныя, а вы — абвінавачваемая...

— Стоп! — камандуе рэжысёр, — геніяльна!

Сцэнарыст не ведае, што рабіць. З аднаго боку — "адліга", Чухрай ужо зняў "Чыстае неба", але тое — у Маскве, а мы ж вось дзе... Смелым быць, канешне, добра, але ж вельмі турботна... Ён у адчаі.

— Валя! Мы згубім карціну. Давай здымем страховачны варыянт.

— Не. Сцэна знята. І знята цудоўна.

— Цудоўна, канешне, але... Ведаеш што? Здымі следчага са спіны, на фоне акна, а? Стаіць, глядзіць у акно і задуменна запальвае папіроску, акадэмічная паўза... Часам, ты ж ведаеш, цішыня мацней за гром.

— Не! Я толькі што зняў сцэну, якая стане галоўнай у фільме. Вы што, самі не бачыце, як усё гэта здорава? "Гэта яны — падследныя!" Яны, народ за акном, народ усёй краіны! Гэта класна сказана, таму што праўдзіва.

— Валік, я разумею. Ты маеш рацыю. Але запас у жыцці заўсёды патрэбны. Здымі запасны варыянт, запэўніваю цябе, ён у мантажы спатрэбіцца. Ну элементарная перабіўка хаця б, здымі, я патрабую, табе што, пяці метраў стужкі шкада? Я заплачу, мы скінемся з табой па "чырыку", здымай!

Рэжысёр пасупраціўляўся і здаўся. Даручыў "другому" зняць гэты "заспінны план". Уся група "балдзела" ад гэтай сцэны — у нас такога яшчэ не было! Якая адчайная смеласць! "Гэпэушнік", паказваючы на народ, на весь свет, заяўляе: "Гэта яны — падследныя..."

Усе ўжо загадзя віншавалі рэжысёра і сцэнарыста. Рэжысёр атрымліваў віншаванні з гонарам. Сцэнарыст зусім наадварот. І ён меў рацыю. Эпізод пражыў на мантажным стале да першага пасяджэння мастацкага савета. Рэакцыя пасля прагляду ў дырэктарскай зале была незвычайнай. Усе доўга маўчалі, потым рэжысёра павялі ў кабінет дырэктара. Што там было, пра што разважалі ды меркавалі — невядома. Але ў фільме, які, дарэчы, меў восемдзесят варыянтаў назвы, а выйшаў як "Пісьмы да жывых", сцэна гэта, перапісаная прадбачлівым сцэнарыстам і пераагучаная "дацiснутым" рэжысёрам, на зыходзе "адлігі 60-х" мела такі выгляд.

Следчы: — Сядайце, абвінавачваемая.

Гераіня: — Я не абвінавачваемая. Я падследная.

Следчы стаіць спіной да камеры, глядзіць у акно, задуменна курыць. За акном — Лубянская плошча, першамайская дэманстрацыя, калоны з партрэтамі правадыроў. Голас следчага:

— І вы пайшлі супраць такога народу...

**Дзмітрый МІХЛЕЕЎ.**

ГУМАР

— Бацька, дапамажы рашыць задачу!

— А ты сам ужо думаў над ёй?

— Думаў.

— Ну і што прыдумаў?

— Што лепш запытацца ў дасведчанага чалавека.

* * *

Муж жонцы:

— Ведаеш, паглядзеў нядаўна дзённік нашага сына і ледзь не абамлеў!

— Шмат "двоек" нахапаў?

— Ды не, аказваецца, ён ужо ў чацвёртым класе!

ВЫСТАВЫ

# ФОТА Ў МОДЗЕ. МОДА Ў ФОТА





● Валерый ХАРЧАНКА.

**У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску адбылася выстава "Мода ў фота — фота ў модзе". Экспазіцыя прадстаўлена нямецкім культурным цэнтрам імя Гётэ і расказвае пра работы нямецкіх фатографаў 1945—1995 гадоў.**

**НА ЗДЫМКАХ: Вілi МАЙВАЛЬД. "Мадэль", Крысціян Дзіор. Парыж. 1947 год; Рыка ПУЛЬМАН. "Сіндзі Кроўфард", Нью-Йорк. 1991 год; Пэтэр ЛІНДБЕРГ. "Мары Уілсан для Марыэллы Бурані", Остыя/Рым. 1990 год; у залах выставы.**



БелТА.

«Голас Радзімы»

**Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".**

РЭДАКЦЫЯ:

Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.**
Спецыяльны карэспандэнт **Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

**НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.**

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 677 экз.
Зак. 1751.
Падпісана да друку 17.7.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).